*...„Сонцэ навукі скрозь хмары цёмные
Прагляне ясна над нашай нівaю,
І будуць жыці дзеткі патомные
Добраю доляй — доляй шчасьлівaю."*



Тарас Гушча.

# АПАВЕДАНЬНЯ.



ДРУКАРНЯ «ПРАМЕНЬ» ІГНАТОЎСКІ ЗАВУЛАК № 5.
ВІЛЬНЯ o o o o o o o o o o o o o o o o 1912 Г.

# ВАСІЛЬ ЧУРЫЛА.

(Апавяданьне з жыцьця лясьнікоў).

## I.

Лес шумеў неяк вельмі нудна.

Лес рэдка калі маўчыць. Прывычнае вуха лавіло ў ім галасы, але ніхто ешчэ ня ўнікнуў ў тайну яго мовы; толькі сэрцэ смутна адгадывае у ім нуду і трывогу. Касматые яловые вяршыны трасьліся, як у шалёным танцы. Лапы то падымаліся, то апускаліся, якбы лавілі нявідзімаго ворага, каторы не даваў спакою і запраўляў трасьціся лес...

Лес шумеў. Нудна шумеў стары лес.

С краю леса стаяла хатка лясьніка, Васіля Чурылы Маленькае ваконцэ хаткі смутным значком пазірало ў поле. Здалёк яно здавалося воўчым вокам. Над самым ваконцэм звісла голая вярбіна і глуха шумела, ўсё роўна, як стагнала.

Маленькая лянпачка смутна сьвяціла ў хатцы. Агонь баязьліва дрыжэў, і чуць заметна скакаў і пераліваўся змрок па сьцяне. Каля стала сядзела жонка Васіля, Алеся. Ей нічога не хацелося рабіць, дый і работа падала з яе рук.

Дзеці даўно ўжо спалі.

— Божэ-ж мой! Гдзе-ж гэта Васіль?—з уздохам пытала Алеся.

Васіль ня першы раз прыходзіў да дому ў такі позны час. Знала Алеся сабаччу лясьнікову службу знала пана лясьнічаго, што то быў за чэлавек. Але, чаму-ж так нудна і страшна за Васіля сягоньня? Алеся і сама гэтаго не знала, толькі некая глухая трывога залезла ў душу і, як чэрвяк, грызла сэрцэ.

Доўга чэкала Алеся Васіля.

Перадумала ўсе нешчасьця і здарэньня, якіе маглі прылучыцца з Васілём ў гэту неспакойную ноч.

А лес усё шумеў. Нудна шумеў стары лес...

## II.

Гдзе-ж дзеўся Васіль?

Ужо пачынало зьмеркацца, як паслаў яго лясьнічы з пісьмом да суседняго двара.

Была ўжо глыбокая ноч, покі зайшоў Васіль у двор да пана. Пан затрымаў Васіля на некольки часу, покі пісаў атказ лясьнічаму. Ніхто не спытаў Васіля, ці ён еў; ніхто не накарміў галоднаго. І выйшоў Васіль ад пана з горкай крыўдай у сэрцы...

Беднасць заправіла Васіля кінуць бацькаву хату і ісьці ў лясьнікі. Німала прышлося яму паабіваць панскіе парогі, не раз мусіў ён стаяць без шапкі прад панам лясьнічым, цалаваць яму рукі, гнуцца. А ўсё гэта любіць пан. Тое лясьніцтва — глухі вугалок Беларусі,— ў каторым служыў Васіль, захавало ў сабе ешчэ старые парадкі таго цёмнага часу, калі-то было право паменяць чэлавека на сабаку, таго часу, каторы зваўся «паншчызнай». Жыццё йшло далей сваею дарогаю, йшло, шырылося, а гэты кут аставаўся глухім, акамянелым, і сьвет жыцьця новаго адскаківаў ад яго, як адскаківае луч сонца ад ледзяной гладзі.

Йшоў Васіль адзінокі нудны.

Сьнег хутка заметаў дарогу, вецер зьбіваў Васіля з ног, а горкіе думкі, як пчолы кружыліся над яго галавою. Усё яго жыцьцё, ўсе думкі былі ў тым, каб скарэй збавіцца ад сабаччай службы. Дастаць-бы кусок зямлі, пабудаваць сваю хату і жыць, як Бог паложыць на душу, нікога не баяцца, нікому ня гнуцца.

А тут што?

І усё лясьніковае жыцьцё яго ўстала прад ім, як жывое, ўсё роўна, як пазіраў ён на яго, як на адзін цэлы закончэны абраз уніжэньня і крыўды.

## III.

А вецер ўсё крапчэў. Васіль адвярнуў каўнер кажушка, глыбей насунуў на вушы круглую шапку, апусьціў стрэльбу руляй ўніз, каб не надзьмула сьнегу. Лес скончыўся. Васіль выйшоў на аткрытае мейсцо. Іон усё думаў аб сваім жыцьці, аб лясьніковай службе.

Ешчэ-б, сказаць, можна было-б служыць, каб трымаўся толькі службы. Але уся беда ў тым, што лясьнічы папіхаў лясьніка да ўсяго, як дарэмнаго каня. Пры аднэй толькі думцы бачыцца з лясьнічым мароз прабегаў па скуры Васіля. Васіль нераз гаварыў, што лепей хацеў-бы ён сустрэцца з гадам, або воўкам, як папасьці на вочы лясьнічаму. Не раз стаяў Васіль, як палатно белы ад крыўды і несправядлівасьці, выслухіваючы спаведання пана лясьнічаго. Рукі самы згортываліся у кулакі, і не раз неякая сіла падбівала Васіля кінуцца на лясьнічаго разбіць твар, кінуць аб землю, таптаць нагамі, біць, біць, без жалю, без міласердзя. Тагды-б здаецца, спагнаў сваю злосць, адамсьціў бы за ўсе зьдзекі і уніжэньня. Але ўспамінаў Васіль, што у яго ёсць жонка, ёсць маленькіе дзеткі, і рукі самы апускаліся, і стаяў ён як акамянелы, маўчаў ні — слова. Што-ж, кінуцца на пана? а што далей? Далей турма, жэбрацкая

торба. Далей гэтых граніц ня ходзіць забітая, прыніжэная душа простаго чэлевека.

Лаяўся пан лясьнічы, як праўдзівы майстэр свайго дзела. Лаянка яго лілася доўга, плаўна, без запінкі. Кожнае слово было ўзважэно і біло па сэрцы цяжкім абухом. Адным словам, думаў Васіль, абмылкаю нейкаю прыйшоў на сьвет гэты чэлавек і замеж астрога або варьяцкаго дома папаў ў лясьнічые. А ў рэшьці, чорт яго разбярэ, хто жыве тут не па абмылцы! На гэтым пункце патыкаліся мысьлі Васіля і не маглі здалець яго, бо далей прад вачыма яго аткрывалося многа непанятных парадкоў, за каторые можна папасьці ў турму або чорту на скавараду.

## IV.

У тахт думкам Васіля сьпеваў вецер ў полі нікому непатрэбные песьні. Васіль так углыбіўся ў свае думкі, што забыўся, гдзе ён, куды ідзе.

Васіль стануў, каб разглгдзець, гдзе ён Ногі яго па калені ўлазілі у сьнег. Але што разгледзіш у такую ноч? Неба змешалося з зямлёю... Шырокі прастор поля зьвузіўся ў чорную бочку, і нічога не магло разглядзець вока адзінокаго Васіля. Усё роўна, як нехта выкінуў яго, непатрэбнаго, беднаго ў гэтую зяўру страшнай ночы, прынёсшы ў ахвяру сярдзітай буры, каб яго жыцьцём купіць сабе спакой.

— Гдзе-ж я? — трывожна спытаў сябе Васіль.

І адразу ахваціў яго страх, самы большы страх чэлавечы — страх за сваё жыцьцё. Рукі яго апусьціліся, яму захацелося прысесьці. Але ня сеў Васіль і стаў перэбіраць нагамі у глыбокім сьнягу, як спутаны.

А думкі. безталковые, дзікіе думкі заварушыліся ў ім скора-скора, як той сьнег, каторы з усіх старон так безжаласна сыпаўся на Васіля. То думалося Васілю,

што ён сам шукае сваей магілы, то здаваліся прад ім сьцены, каменьня, гатовые кожны момэнт наваліцца на яго ўсім цяжарам. Яму здалося, што ён адыйшоўся далёка-далёка... Ужо раз спатыкнуўся Васіль, вецер зьбіў яго з ног. Ён выбіўся на луг, як яму паказалося. У яго думках праняесьліся азярыны ў высокіх берагох, замеценные сьнегам, але ніколі незамерзаючые. Сьнег ўсё глыбейшы і глыбейшы, а сілы ўсё таюць і таюць. От ён сусім выбіўся з сіл, залез у сьнег па пояс і няможэ ўжо мясіць яго адзервянелымі нагамі.

## V.

— А-а-а — у!

Васіль і ня думаў крычаць, як ня думаў ён і плакаць. Дзікі крык вырваўся сам проці волі Васіля, і самі пацяклі сьлёзы.

Вецер падхапіў яго немы крык, рвануўся з ім і тут жэ загубіў яго, разцёр, як мыльную бурбаўку.

— Хто я? Васіль?

— Васіль, хто-ж я?

— Што ж ты тут робіш?

— Сяджу ў сьнягу.

— Ну, Васіль, гайда да дому!

Усё у ім мешалося, і сама сабою навязалася яму гэтая безталковая гутарка...

Во у вачах яго як бы прасьвятлело. Усюды, куды ён ні гляне, віднеліся морды лясьнічаго, яго вышчэрэные зубы. Гэтых мордаў набралася многа-многа; яны абнімаліся, скакалі варушыліся, як па камандзе, дрыжэлі, як лісьця асіны перад навальніцаю.

А вун, там, відаць худую, змучэную, заплаканую твар Алесі... Вунь яго дзеці...

А лясьнічые скачуць, насьмехаюцца з Васіля, падаюць яму рукі і борздзенька прымаюць, як толькі Васіль памыкаўся ўзяцца за іх.

Рвануўся Васіль са злосьці на лясьнічых!

І пачуў Васіль лёгкасць, як бы ён павіс над зямлёю. Іон ціха апусьціўся, стаў лёгка, свабодна ўлазіць ў нешта мяккое і халоднае. От як бы затрымаўся.. Чуў ён ешчэ, як лопнуў рэмень на яго стрэльбі, як улазіў ўніз і... болей нічого ня чуў Васіль.

Вецер сьпеваў цяпер «вечны пакой» слузе Божаму і чэлавечаму...

# ЧОРТ.

## I.

— Братка ты мой, Іван! Ты знаеш, як я цябе люблю! Ну, дай — пацалуемся! Во, гэтак!.. Назавеш ты Міхася сабакою, лайдаком, калі пачуеш ат каго, што я табе кепска мыслю.

— Братка ты мой, Міхаська! Забій мяне Пярун, во тут, у гэту ночку, на гэтай дарозі, калі я не люблю цябе. Дай, і я цябе пацалую!

І сябры зноў сталі цалавацца.

Міхась і Іван — лясьнікі. Зашлі яны да цёткі Хрумы і трынкнулі, што называецца. А цяпер йшлі да дому.

— Не магу, братко, іьсці, — прызнаўся Іван.

— Дык што-ж мы будзем рабіць?

— Дай, ляжэм, паляжым.

— Ну, давай.

І яны ляглі.

— Што-ж мы будзем так лежаць? — Кажэ Міхась. Давай клясці ляснічаго!

Іван замарматаў нешта пад нос і.., заснуў.

— Ужо сьпіш? Уставай, пойдзем.

— Не магу, братко.

— Садзіся мне на плечы: панясу катла.

Міхась стаў ракам і падставіў сьпіну. Іван узяўся за плечы. Сталі падымацца. Міхась крэктаў, пяўся, і ніяк

не ўстануць. Паваліўся ён сьпіною на Івана, і ляжаць абодва. Яны зноў абняліся. Ім здавалося, што не было і німа на сьвеці гэтакіх сяброў, як яны.

Палежалі трохі. Іван захроп, як пшаніцу прадаўшы.

— Сьпіць, сказаў Міхась і устаў.

Яму хацелося сьпеваць. Міхась быў чэлавек вясёлы. А ешчэ быў вясялейшы, як хмель пачынаў туманіць яго лахматую галаву. Тагды ён быў штукар на ўсе рукі.

— «І гэээй ты, гарэээлачка!..»

Прабаваў Міхась выдумаць песьню пра гарэлку. Далей нічога ня мог прыдумаць і сьціх. У лесі было ціха. Толькі эха пакацілося! І далёка — далёка панясьлося «гарэээлачка» і прапало недзе за гарою ў «Белых Крыніцах.» Аж страшна стала Міхасю.

## II.

Не бэз прычыны страшна зрабілося Міхасю: былі яны як раз нідалёка ад Кірылавай Магілы.

От што чуў я ад людзей пра Кірылаву Магілу:

У князя Р. быў слуга Кірыла. Князь любіў езьдзіць на палеваньне і заўсягды браў з сабою і Кірылу. Адзін раз кажэ яму князь:

— От што, каханы: я паеду да пана абедаць, а ты садзіся вярхом на каня, і колькі лесу аб'едзеш на каню, пакуль я паабедаю, увесь той лес дарую табе, бо ты добры слуга.

Падзякаваў Кірыла князю, ўзяў самаго лепшаго каня, сеў і паехаў. Каб князь бачыў, сколькі ён аб'едзе, ўзяў ён з сабою шаблю і рабіў ён на хвоях лысінкі.

Як пабачыў князь, сколькі Кірыла лесу аб'ехаў, аж за галаву ўзяўся.

— От што, коханы, кажэ князь: — цяпер ты палезь на дуб ды паглядзі аттуль, як многа у цябе лесу.

Кірыла палез на самы верх.

Зьняў князь з плеч стрэльбу.

— Ну, мой каханы, закукуй цяпер, як зязюлька.

Кірыла закукаваў.

— Бух! выстрэліў князь.

І скінуўся на зямлю бедны Кірыла з прабітаю навылет галавою...

Пад тым дубам яго і пахавалі.

Мейсцэ тое і стала звацца Кірылаваю Магілаю.

І цяпер еичэ ў тым лесі відаць на хвоях лысіны.

Заплылі яны смалою, і завуць іх Кірылавымі знакамі.

Расказывалі людзі, што ў поўнач каля магілы нехта плакаў, праклінаў панскую несправядлівасць.

Страшна было тут у ночы.

## III.

Многа расказаў чуў Міхась пра чарцей. Знаў ён што пьяных часта водзяць па лесі чэрці. Знаў што можна атхрысьціцца, і яму было і страшна, і вясёла.

І от Міхась, як яго хто падбіў, ўзяў і загукаў на ўвесь лес:

— Чэрці, трасца вашэй галаве, сюды ідзеце!

Эха паняслося па дарозі, пашло па кругламу балоту к Белым Крыніцам і сціхло каля Кірылавай Магілы.

Міхась стаяў і слухаў, як яно гудзела.

І ізноў ўсё стало ціха.

Блішчасты месяц, як кружок залаты, стаяў ўжо высока над лесам. Ціха было ў густым бары закрыла ніз цемната. У Белых Крыніцах нудна перэклікаліся

совы. Далёка-далёка, як с пад зямлі, данасіўся сабачы брэх.

І чуе Міхась: нешта загрукатало па дарозі. Прыслухаўся. Гук не сьціхаў і быў ўжо бліжэй. Ужо можна распазнаць, што нехта едзе. Колы біліся аб карэньня і скрыпелі.

Міхась пасьмялеў.

Гук і скрып калёс саўсім ужо бліска.

Міхась скінуў кажух, вывярнуў у верх шэрсьць і накінуў на сябе. У шапку ваткнуў дзве палачкі заміж рожак і прытуліўся пад хвоей.

Іван спаў, як забіты.

Пад'ехаў воз.

На возі лежалі мяхі з мукой, а на мяхох сядзеў мужык. То быў Пятрусь Гвозьдзь, той самы Пятрусь, што летась украў у Міхася з лесу тры вязы. Пятрусь ехаў з млына; сядзеў ён на возе без шапкі і маліўся Богу, едучы цераз гэтае страшнае месца.

## IV.

— Стой! Крыкнуў Міхась, выскачыўшы с пад хвоі і схапіўшы каня за аброць.

Пятрусь так і абамлеў.

— Дык вот ён які чорт! Гаварыў Міхась: — ах, ты халера!

Пятрусь трохі апомніўся. К яму вярнуўся язык і памяць.

— Уцекай з дарогі, бо канём раздушу!

— Як?! ты мяне з дарогі гоніш?

— Уцекай кажу, а то ешчэ нюхаўку сабью.

— Ты мне?! Ды ты знаеш, хто я?

— Ну, хто ж ты?

— Ага! Хто я! Папробуй выцяць.

Пятрусь ужо падняў пугу, але не асмеліўся выцяць «чорта».

Ну годзі! пайшоў з дарогі!

— Не, не пайду!

— Чаго ты прывязаўся, як смала? Тфу! Згінь, прападзі, нячыстая сіла! Уцекай, хрысьціць буду!

— Ну, перэхрысьці!

Зноў Пятруся страх узяў. А што, як крыж не паможэ? Тагды што?

Пакуль яны крычэлі, конь пачуў волю і стаў памаленьку заварачывацца назад, шчыпаючы траву. У свар цы Пятрусь саўсім не бачыў, што конь яго завярнуўся.

А Міхась як падскочыць к Пятрусю ды як запішчыць! ды так моцна, што аж Іван падняў галаву. А конь шчыпаў траву каля Івана. Як заварушыўся Іван, конь спудзіўся і паскакаў назад у млын.

Га-га-га-га!... Зарагатаў Міхась (ён чуў, што чорт рагочэ, падмануўшы чэлавека).

Пятрусь і ня думаў спыняць каня: скарэй бы ад гэтаго нячыстаго месца!

Але, як ён дзівіўся, як ізноў прыехаў у млын.

А на затрўа Пятрусь Гвоздзь усім як у звон званіў, што бачыў чорта каля Кірылавай Магілы.

## КАЛОДКА ПЧОЛ.

### I.

Тры мужыкі: Сёмка Доўба, Гілёрык Кажан і Марцін Тапчан сядзелі за сталом і гаварылі аб пчолах. Главным бортнікам абабраўся Доўба. Яму першаму прышла ў галаву мысль пра пчолы. Мужыкі доўга гаварылі і паддавалі адзін другому ахвоты. А ў гутарцы так надымілі люлькамі, што і галоў іх не было відаць.

— Калі Бог пахіліць на дабро, то і з аднае калодкі можна развясьці пчолак, — гаварыў Сёмка, абціраючы цыбук проста аб халат.

— Во, гэта, — падхапіў Марцін: — дзіва, што можна! Вун Кандрат, што кажуць Турэцкая Смерць, пазалетась зlавіў рой, — цяпер ужо мае шэсць калодак!

— А вы чулі здарэньне з Тацянаю?..

— Чаму-ж ня чулі?—перэпынілі Гілёрыка сябры:— дык ты думаеш, што і табе на сьпіну сядзе рой? Не, брат, ня трэба спаць у шапку. Вось у нядзельку паедзем да Язэпа Гавакі і купім калодку на кумы.

— Кажуць, ў яго рука цяжкая, — пробаваў нясьмела спрэчацца Кажан.

— Баба ты! — накінуўся на яго Сёмка з Марцінам: — верыш дурным бабскім забабонам.

— Верыць, ня веру; але гавораць людзі.

— Гавораць людзі! мала што людзі гавораць! Гавораць, што Малютава свіньня хочэ запісацца ў саюз

рускаго народа, а Язэпаў вол ходзіць па вёсках ды на карты варожэ! — зрэзаў Сёмка Гілёрыка·

Позна вечэрам сябры разышліся. Сёмка угаварыўся зрабіць казлы на вулей, Марцін узяўся садраць лубок, а Гілёрык павінен даць каня з'езьдзіць да Гавакі па пчолы.

## II

Асьцярожна вязьлі мужыкі вулей. Конь йшой па-малу, хіба толькі з горкі прыбаўляў ходу і то не па сваей ахвоці: вулей быў залішне цяжкі (Сёмка гаварыў, што сам вулей каштуе рублёў два, а яны с плэчамі далі тры) і пхаў коніка. Сёмка трымаў каня за вобруць, упіраўся плячуком у аглоблю, а нагамі ў зямлю і такім парадкам не даваў калёсам разгуляцца. Марцін йшоў з аднаго боку, Гілёрык з другога, і дзержалі вулей, каб ён не варочаўся і каб не паадпадаліся плястры с пчэламі. Драбіны былі высланы саломаю, і вулей ле-жаў, як пан ў вагоні першаго клясу, жыватом у гару. Даўжнік абвязалі белаю анучаю, а ў вочка ваткнулі пучок кулявой саломы, каб прахадзіў дух і каб не вы-леталі пчолы.

Марцін некольki разоў прыкладаў вухо да вульля, ці не гудуць пчолы. Там было ціха. Марцін думаў, што вулей таўсты, затым нічога і не чутно. Гілёрык так сама прыкладаў вухо з другого боку. Ен чуў як-бы некі шум, але і сам ня мог разабраць, ці то пчолы шумяць, ці сам вулей гудзе, шаруючыся аб салому. Каб разагнаць сумленьня, Гілёрык грукнуў, як тапаром, кулаком па вульі.

— Што ты робіш, каб ты згарэу, каб ты?!..—кі-нуўся на яго Сёмка: — матку ўстрывожыш! Вось як трэсну табе ў вуха, то не так зашуміць! Цікавы вельмі!

Паміж тым пад'ехалі да самаго горшаго мейсца і спыніліся. Трэба было з'ехаць з гары. Гара высокая і пры́ткая. Сёмка з Марцінам пабраліся за аглоблі, а Гілёрыка пасадзілі вярхом на вулей. Гілёрык уперся нагамі у крайніе лёсткі, а рукамі ўшчарэпіўся за вулей, каб ня з'ехаў. Калёсы наўперад йшлі ціха, а потым давай каціць барджэй. Марцін ня спрытна ступіў і паднёс сваю ногу пад конскі капыт. Марцін зашыпеў, як вуж, і выпусьціў аглоблю, а сам кульгаючы і скачучы на аднэй назе, ўляпіўся за драбіны.

— Дзяржы!

Гілёрык бачыць, што ад яго залежыць доля вульля, і ён, што сілы, налёг нагамі на лёсткі. Лёсткі зламаліся, і Гілёрык грукнуўся патыліцаў аб вулей, аж ногі задраліся ў гару, а потым па вульлю зьехаў на сьпіне і стукнуўся галавою аб конскі зад. На іх шчасьце, воз ужо зьехаў з гары, і яны адрабіліся адным толькі страхам, калі не лічыць гуза на Гілёрыкавой пыталіцы і садранай скуркі на назе Марціна.

## III.

На Сёмкавым прыгуменьні сабралася цэлая чэрада народу. Тут былі мужыкі, жонкі і дзеці. У садзе у Сёмкі — там была грушка, яблынька і дзьве вішні — казлы ўжо стаялі.

Суседзі памаглі зьняць вулей.

— Можэ калі дасьцё мёду пакаштаваць, — сказаў Пятрусь Каптур, плюючы на рукі і беручыся за вулей.

— Абы Бог даў мядок быў, — сказалі «кумы».

Вулей прыладзілі на казлы, у ногі палажылі плюскаты камень.

Тут Сёмка ўзяў рэшато, ўлажыў у жончыну спадніцу, абвязаў яго паяскамі і уздзеў на галаву.

— Мо прынясьці сьвянцонай вады?—спытала Марціха.

Яе ніхто не паслухаў.

А Сёмка тым часам зьбіраўся зьняць абвязку з доўжніка.

Усе, хто тут быў, накрылі галовы, хто чым папала. У гэты час над вухам Марціна загуў авадзень. Марцін падумаў, што пчэла, і прыгнуў галаву да самай зямлі, а Гілёрык намерыўся бегчы.

— Не варушцеся, бо пазаедаюць, — сказаў Сёмка, зьняў абвязку і выняў салому з вочка.

Пчол нігдзе не было відаць.

— Што-ж яны не лятуць? — Спытаў Сёмка с трывогаю і злегка стукнуў кулаком па вульлі, прыхіліўшыся, колькі пазваляло рэшато, да вульля.

— Што за ліха?.. Дай Марцін, сякеры, адчынім галаву.

Прынясьлі сякеру. Сёмка дастаў круг.

Усе проста так і замерлі.

— А ліха-ж яго матары! — крыкнуў Сёмка зірнуўшы ў вулей: — от падвёў гад, каб яму жывот падвяло! Нічога, брат, німа ў вульі. Пусты! А бадай яму пуста было жыць!

Усе зарагаталі. Маладые хлопцы-падшывальцы давай скакаць каля Сёмкі і крычаць:

— Дай, дзядзечка, мёду!

— Трасцу ў бок,—вылаяўся Сёмка і пхнуў нагою ў вулей. Казлы схіліліся, і вулей грокнуў на зямлю.

— Я такі і казаў вам, што ў Язэпа цяжкая рука, — вясела крыкнуў Гілёрык, рады, што выпіло так як ён казаў.

— Маўчаў бы лепш, — сказаў Марцін, выходзячы з садка...

# КАНТРАКТ.

(З жыцьця пінчукоў).

I.

Хата старасты Рамана Карэня была паўнютка людзей. Сюды часта такі зьбіраліся палешукі пагутарыць аб сваіх справах. Апроч таго, Раман і сам часта склікаў мужыкоў, каб аб'явіць ім волю валаснога начальства.

Вось і сягоньня Раман паклікаў палешукоў на сход. Чуць толькі сьцямнела, пачалі зьбірацца палешукі. Скора іх націскалася поўная хата. Захрыпелі цыбукі, застукалі люлькі аб тоўстые кіпці, і ў хаце падняўся такі дым, што ня можна было пазнаць трэцяго чалавека, хоць яго нос і можна было абмацаць рукою.

Пакі зьбіралося «законнае чысло» людзей, каб сход мог мець сілу, палешукі гулі, як рой пчол. Адзеты яны былі — хто ў доўгіе халаты з паламі, хто ў кажухі с шырокімі, як засланка каўнерамі. Усе яны былі ў лапцях, з голымі грудзьмі, хоць на дварэ крэпіла зіма. Адны сядзелі другіе стаялі. Нізкі з рыжаю бародкаю Сымон Тачыла жартаваў з Алёнаю, стараставаю жонкаю, пакі яна, ня сунула яму сьмеючыся, гарачаю качаргою ў рыжую бараду. Кандрат Лата пакепліваў з Дземяна Трубы, як яго поп спаведаў летась і скамандаваў за грэх прывязьці тры вазы дроў.

— Які ты грэх зрабіў, Дземян?

— Што ступіў, то і саграшыў, сказаў Дземян.

Староста ўжо некалькі разоў падымаўся на услон, пытаў, ці ўсе сабраліся, лаяў Кастуся Рылку што той доўга ня йшоў.

— Ну, ўжо ёсць больш, як тры чэцьверці гаспадароў, — сказалі мужыкі.

— Дык будзем рабіць сход, пачаў старшына: Грыгор Бугай, Пятрусь Грэнка, Янка Вясёлы і Васіль Кукса хочуць ўзяць ад обчэства у арэнду рэку і тоні.

«Арэндатары» стаялі асобна. Твары іх былі сурёзные.

Як толькі староста змоўк, палешукі, як па камандзе загаманілі на ўсе лады. Тут былі ўсякіе галасы: адзін трэшчаў, як трашчотка, другі вырываўся рэзка, прараэьліва, як жалезны клін, трэці вёў тонка, чацьвёрты хрыпеў, як люлька стараставаго бацькі, пяты сыпаўся гарохам, шосты гуў чмялём, а ўсё гэта зьлівалося з басам якого небудзь Данілы.

Але ў рэшці верх узяў голас Васіля Куксы. Іон так стараўся — вытрашчыў вочы, махаў капшуком і люлькаю.

— Якая цяпер ў чорта рыба? — крычаў Кукса: — хоць бы на невад адышло!

— На колькі год бярэце ў арэнду?

— На шэсць. Але...

— Колькі арэнды ў год? — пытаў староста у схода.

— Пятнаццаць рублёў! — гукнула большая палавіна палешукоў. Праўда, некаторые крычалі 18, другіе — 12, а самы арэндатары стаялі за дзесяць.

— Дык як жэ будзе?

— Ніхай бяруць за дванаццаць, сказаў Мікіта Крынічны.

— Усе сагласны?

— Сагласны!

— Калі так, сказаў стараста, то будзем пісаць прыгавар. Толькі-ж не разходзьцеся хлопчыкі!

## II.

А тым часам глаўнае было ўсё ў перэдзі: дастаць аркуш паперу для кантракта, асадку, атрамэнт, пяро. Гэта ўсё такіе рэчы, каторых палешукі не ужывалі з тых часоў, як паўстаў сьвет Божы. Стараста разаслаў ганцоў ва ўсе куты в. Ямішч. Зьмяты аркуш паперы дасталі у Бэркі. Па атрамэнт і асадку прышлося іськці за дзьве вярсты да старога Ірша. Прайшла добрая гадзіна часу, покі ўсе патрэбные рчэы былі раздабыты.

Цяпер на самае важнае мейсцо выступіло пытаньне: хто-ж будзе пісаць кантракт? Паклікалі-б жыда, дык шабас — ня пойдзе. Усе палешукі, у тым знаку і стараста, пісаць ня ўмелі. А як трэба было заверыць якую бумагу, то стараста браў сваю печатку, трымаў яе над запаленым карчом або лучынаю, покі на ёй не нарастаў здаровы слой куру, і прыкладаў да бумагі, наплеваўшы на тое мейсцо, гдзе павінна быць печаць. І «яміцкі сельскі стараста» не раз стаяў да гары нагамі.

Палешукі пачухалі патыліцы. Але яны зараз жэ пачалі таўчы пад бок Міхалку Варэйку.

— Хадзі, Міхалка, ты-ж распісываўся ў воласьці.

— Распісацца магу, а кантракт чорт яго напішэ,— упіраўся Міхалка.

Тут Міхалку падхапілі пад рукі, двое цягнулі яго за крызы каптана, некольні чэлавек пхалі ззаду і такім парадкам дамарослаго пісара цягнулі праз ўсю хату, як мурашкі хрушча. Другіе палешукі разступіліся, і Міхалку пасадзілі за стол. Стараста зьняў лямпу, паставіў ў гаршку на стол, а каб яна не хісталася, насыпаў ў гаршчок ячменю.

На момэнт у хаці зрабілося ціха. Усе пазіралі на «пісара».

А «пісар» сядзеў важна і агледаў пісарскіе прылады. Канец пера быў зломаны, у антрамэнтнай пляшкі не хватала палавіны рыла. «Пісар» апусьціў пяро ў каламар, паднёс пасьля да лямпы і стаў прыгледацца.

— Ці-ж гэта атрамэнт? саладуха нейкая!—сказаў ён.

Хата затраслася ад сьмеху. Сьмеяліся не с таго, што сказаў Міхалка — ўсім было сьмешна бачыць Міхалку пісарам.

Міхалка ўжо хацеў кінуць пісарства і вылезьці з за стала.

— Дык што пісаць? — спытаў ён злосна.

Падняўся ешчэ большы сьмех.

— Ось я табе зараз скажу, — і стартста пастараўся зрабіць надта мудрую міну. Іон скрывіў на бок галаву, завярнуў вочы ў самы лоб, а аднэю рукой чухаў скіўіцу. Яму даводзілося чуць некалькі разоў, як чыталі кантракты, але ён не хацеў паказаць гэтаго: нехай знаюць палешукі, што ён дыхтуе сам з сваей галавы.

— Пішы! — сказаў стараста да Міхалкі: — мы, ніжэпадпісаўшыеся мужыкі з в. Ямішч, скліканые нашым старастам...

— Чаго ты паляцеў, як вол у гіз! — крыкнуў Міхалка. Але старасьце далей ляцець не было куды: хоць забій, далей ні слова ня помніў. Аж холадна зрабілося старасьце: пачаць то пачаў, але чым скончыш? як тут выкруціцца?

Міхалка тым часам прыглядаўся да пісаньня. Першым дзелам ён пасадзіў вялізную «варону» на папер. А як гэта капка непатрэбна, то ён размазаў яе рукавом і пачаў выводзіць каракулі, высалапіўшы язык і сярпом скрывіўшы яго на правай палавіне рота.

А стараста ўсё думаў. Цяпер ён думаў папраўдзі, але галава была, як саганец — ніводнай мысьлі ня выціснуў з яе бедны стараста.

— Мы... мы... мы... ліжэ... іжэ... падказаўшыся...— Міхалка ўпёрся носам у кантракт.

— А ты праўду кажэш загаварыў «пісар», ня зводзячы вачэй с кантракта: што-ж я напісаў?

— Ніжэпадпісаўшыеся, — сказаў стараста апаўшым голасам.

— Ага! так, так!

— Прачытаюць у воласьці, яны-ж з гэтаго і хлеб ядуць, — развясельваў іх арэндатар Кукса.

А тым часам і стараста, і «пісар» ўзбіліся на сьцену. Стараста уставіўся вачыма ў печ, як дурны, і стаяў, а Міхалка ваеваў з «мужыкамі». Чытаў, чытаў, а ў канцы вычытаў:

— Мукі!

Усе зарагаталі.

Старасту асьвяціла ўрэшці добрая мысль.

— Ну, і пісар жэ з цябе! — накінуўся ён на Міхалку: пісаў ~~пісака,~~ што не разбярэ і сабака... Балай ты згарэў!.. Ідзеце, хлопцы, да хаты. Прыедзе пісар, дык і напішэ!..

# ІМЯНІНЫ.

Ешчэ за месяць да пісаравых імянін усё панства м-ка В. знала, што пісар першаго сенцябра імяннінік, і кожны мястэчковы пан даўно ужо вострыў зубы на гэтые імяніны. Усё мястэчковае панства зьбіралося кожны вечэр у каго-небудзь з паноў, пілі гарэлку, гралі ў карты, абівалі свае языкі аб косьці таго, хто ня ўмеў, або не хацеў пападаць ім у тон і туляўся ад іх зборышч.

Гэтак і не агледзіліся, як падыйшоў дзень імянін.

Зачыніўшы манапольку, Амельян Шурпаты, сядзелец тамтэйшы, пайшоў да пісара. Па дарозе ён клікнуў вурадніка Дарафея Бойку. Покі вураднік зьбіраўся, з другога канца падыйшоў дзяк. Да іх ешчэ прылучыліся дыякон з хвэльчарэм, і ўся кампанія памандравала да пісара. Амельян Шурпаты ўсю дарогу гаварыў сьмешные рэчы. Яго расказы вядомы былі тым, што ў іх было ў сто разоў больш гразі, як сьмеху і розуму. А калі ён ужо надта дацінаў, кампанія хваліла яго. І самаю высшаю хвалою для сядзельца было тое, як яго сябрукі скажуць: «А ліха-ж яго матары!» Або: «А бадай ты апруцянеў!»

Пісар Сямён Гаўрылоўскі даўно ўжо чэкаў гасьцей, паходжываючы па пакою, курачы папросу і пакручываючы вусы. У сталовай ужо быў гатоў стол, на каторым стаялі бутэлькі і цэлые горы закускі. Пісар вясёла пазіраў на стол і часамі усьмехаўся сам сабе,

глянуўшы ў люстэрка, і пстрыкаў пальцамі каля самаго вуха.

— «Се жэніх градзе!» — сказаў дзяк, атчыніўшы дзьверы, і ўся кампанія ўвалілася ў пісаравы пакоі.

Госьці ешчэ паздравілі імяніnніка. Да вячэры паставілі некалькі «банкоў». Часамі за картамі падымаўся гоман. Старшына ніяк не хацеў прымаць у доўг і наступаў на фэльчэра. Фэльчэр, спусьціўшы ўсе грошы, сярдзіта пазіраў на старшыну, кідаў карты, казаўшы: «Давіся, акула!» і сядзеў або радзіў суседу, на якую карту паставіць большую мазу.

* *
*

— Пажалуйце, паны, закусіць — паклікаў пісар гасьцей. Загрымелі крэслы, і ўсе павылазілі з-за стала, каб перайсьці за другі.

Пісар наліў чаркі.

— За здароўе Сямёна Пятровіча! — сказаў, устаўшы, дыякан: — дай Божэ, каб на другі год дачэкалі, ніхай красуецца наш пісар на многая лета! Ура!

— Уррра! — падхапілі ўсе і сталі стукацца чаркамі с пісарам. Пісар стаяў і кланяўся. Выпілі па другой, па трэцяй.

Пасьля чацьвёртай чаркі падняўся пісароў памочнік. Нос яго быў заўсягды чырвоны, як бурак, і выдаваў яго шчырую дружбу з манапалькаю. Каб хто пазіраў за ім ў гэты вечэр, той замеціў бы, як ён выймаў з кішэні паперку і заглядаў ў яе. Памочнік меў значок «саюза рускаго народа», пасылаў свае творы ў газэту «Русское знамя» і лічыўся ў мястэчку чэлавекам мысьлі, пера і бутэлькі.

Стаўшы на крэсла і абцёршы нос, памочнік пачаў:

«Пышны баль у нас сягоньня,
І закуска, і гарэлка!..
Слава пісару Сямёну!

Ах, каб ён ня плаваў мелка!
Рускі пісар наш па духу,
Сыцыліста ён ня любіць,
Як крамола завядзецца, —
Марне ён яе загубіць!
Ен наш пісар, ён наш друг,
Ніхай крэпне яго дух!»

Усё зацiхла; а потым адразу падняўся гоман. Госьці ня ведалі, каму аказываць чэсць: пісару, ці памочніку-паэту. Тут ўсе кінуліся да пісара.

— На ура! на ура!

Пісара падхапілі на рукі і пачалі шугаць. Больш за ўсіх стараўся сам паэт. Пісара падкідалі чуць не пад самую столь. Ногі яго целяпаліся на паветры. Лецючы с пад столі, ён грукнуў абцасам паэта па лбе. Паэт схапіўся аднэй рукой за лоб, а другой даставаў з кішэні паперку, на каторай былі напісаны вершы.

— Ешчэ раз чытай!

— Не! Вы бачыце, што з вершоў выходзіць!

— А што?

— А вось чытайце адны толькі вялікіе літэры кожнай новай строчкі.

— «П-і-с-а-р С-я-м-ё-н!»

— Вось маладзец!

— Ах, што за галава!

— На ура яго!

* * *

Сваімі вершамі памочнік павярнуў можна сказаць, кола пісарэвых імянін.

Першаго гэтые вершы трохі укалолі вураднiка. Як так? ня пісар жэ пастаўлен ад начальства ваеваць с крамолаю, а ён, вураднік!..

— Ці вы помніце — пачаў ён — вучыцеля? які быў «чырвоны!» Толькі зірнуў на яго, адразу пазнаў,

што гэта за птушка. А дзе ён? Кару нясе ў турме за неуважэньне начальства. А хто быў рука караючаго? я,—Бойка. А ў вёсцы Сту...

— Але хто накрыў пазалетась вучыцелёў на з'ездзі? — перэпыніў старшына, каторы ўвесь час маўчаў і старанна ачышчаў чаркі і талеркі: — бачу я, зьбіраюцца, валасатые, кудлатые. Тут я і дагадаўся. Я да земскаго, ад земскаго — да прыстава. Ось і накрылі. І цяпер чэлавек дваццаць бяз мейсц бадзяюцца, як басякі.

— О! гэта называецца зацягнуў невад! — крыкнуў памочнік і палопаў старшыну па плечах. — Вураднік, і пісар, і старшына — ўсе карысные людзі...

— А я, дзяк, жыву так: брэхну таму і другому і жыву сабе так-сяк! Мая доля — чэцьвертак.

І дзяк, узяўшыся ў бокі, пайшоў у прысядку.

— Віно весяліць сэрцэ чэлавека, — сказана у Пісанні, — крычаў дзяк.

Гэтаго толькі і чэкаў сядзелец. Іон даўно ўжо памыкаўся сказаць і сваё слова. Цяпер горла яго прарвалося і ён пачаў гаварыць. Сядзельцоў ён парабіў самымі лепшымі людзьмі. Перш-на-перш яны заўсягды сядзелі ціха, ніколі не бунтаваліся.

— Воласць зьбірае няДоімкі, як крумкач косьці, — гаварыў сядзелец, — а да мяне мужык сам нясе капейку. Голы, босы, адны косьці, а бутэлькі гне. З ветру валяецца, а даход дае, а праз каго? праз сядзельца!

— І праўда, дурэнь ты! — пачаў вураднік: за чыею-ж ты сьпіною сядзіш ды чэрава гадуеш? Асталоб ты!

— Ты сам дурэнь і асталоб; ад дурня чую!

— Ці падстаўляў ты калі хоць раз свой барані лоб пад кулю? Ці трос ты хоць людзей ў ночы? Ся-

дзіш сабе, паветрэ псуеш, ды лезеш ешчэ с суконным рылам куды табе ня след.

— Скажы гэта сучцы старога Ахрыма, а не мне. Знаю я... за рубля можна!.. Моўша Перэц ня мае права...

Нет ведама, якая справа была у вурадніка з Моўшам Перцэм, — так яна і асталася загадкаю для гісторыі. Бо толькі што сядзелец адчыніў рот, каб сказаць неякае слово пасьля «праза», як Бойка схапіўшы с талеркі салёны разлезлы агурок, катораго старшына пакалоў відэльцам на дзіркі, шырганўў ім ў нос сядзельцу. Усё гэта зрабілося так скора, што сядзелец быў падумаў, што яго нос сарваўся сам і паляцеў да вураднікa. Але нос аказаўся на сваім мейсцы, як салдат на часох. На адзін момэнт усё прапало з вачэй сядзельца. Ён толькі бачыў вураднікa ды талерку с капустаю, каторую ён зараз-жэ і скарыстаў. — Уся галава Дарафея была ў сырой капусьці, Сок пацёк яму за каўнер. некалькі момэнтоў стаяў ён сагнуўшыся і круціў шыей, як аглушэны баран.

Ці-ж можна было сьцярпець гэтакі сорам?

Вураднік сарваўся з мейсца, скінуў са стала бутэльку з гарэлкаю, некалькі талерак, схапіў сядзельца за сярэдзіну і пацягнуў на двор. Але на зборнай вураднікa асьвяціла шчасьлівая мысль: каля дзьвярэй стаялі два цэбры, адзін с паранкаю для каровы, другі з мякінаю для свіней. Сядзелец прачытаў мысьлі вураднікa і бараніўся з апошніх сіл. Бой цягнуўся ня доўга: праз некалькі момэнтоў сядзелец сядзеў у цэбры с паранкай. Толькі што вураднік хацеў ўжо сьвяткаваць свой верх, як сядзелец так спрытна трэснуў нагой па Бойкавых цяглях, *) што калені вураднікі далёка падаліся ўперад,

*) задняя старана кален.

зад яго, як капор, што забіваюць палі, ўляцеў ў свінячае сьнеданне. Усё гэта зрабілося так борзда, што госьці не маглі нічога зрабіць, каб адхіліць гэту катастрофу.

Цяпер госьці ўсе былі на зборнай і рвалі жываты ад сьмеху.

— Пабеда Давіда над Голіяфам, — сказаў дыякан.

А дзяк сьпеваў: «Коня і всадніка морэ чэ-рэ-мно-о-о-о-е.

## СОЦКІ ПАДВЁЎ.

I.

Важна ходзіць па мястэчку вураднік, пакручываючы рыжые вусы. Пры баку ў яго цялёпаецца трапло — шабля, чырванеюць шнуры і наплечнікі і блішчаць на сонцы паваксаваные боты. Іон толькі што прыехаў на службу, ў яго галаве метушацца тысячы думак, думак аб тым, як звясьці са сьвету крамолу. Яму толькі што данёс стражнік, што ў вёсцы Галадранцы нідаўна зьявіўся падазрыцельны чэлавек. І галава яго строіць хітрые пляны, тче густые сеткі, ў каторые павінна заблутацца крамола. Яму здаецца, што ён раскрыў «праступное саопчэство», захапіў бомбы, пісьмы і рэвольвэры, і ўсё гэта даставіў да начальства. Яму даюць павышэньня, пасылаюць ў горад, робяць акалодачным, потым прыставам, а там... І па шоў наш вураднік ў гару, як цыган па драбінах на неба. Тут вураднік аж засьмеяўся сам сабе і ляпнуў рукамі па сваіх тоўстых кумпякох.

—Ну, што ж? дык ты гаворыш «падазрыцельны» чэлавек? — Пытаўся вечэрам вураднік свайго належнаго гарбатаго стражніка.

— Безпрыменна падазрыцельны! Сказаў стражнік ціхім і працяжным голасам.

— І ты яго бачыў?

— Бачыў! Малады чэлавек, для хітрасьці астрыжэны, нічога сабе адзеты, у чорнай кашулі, падпярэзан шырокім паясом... Гатоў ў заклад ісьці на кварту гарэлкі, што сыцыліст.

— А ты не пытаўся пра яго мужыкоў?

— Дык вам мужык так і скажэ, асабліва галадранскі мужык. Гэта — гадаўё!

— А калі з'явіліся пракламаціі у Голадранцы?

— На тэй нядзелі у пятніцу.

— От што, брацe, — пачаў, памаўчаўшы, вураднік голасам начальства: — заўтра ты паедзеш у Галадранку і навядзеш точные спраўкі аб гэтым леваруцянеры. Мы яму пакажэм сваболу! Зайдзі да соцкаго Рамана Камлюка. Але не надта выкладай яму ўсё на талерку, трэба помніць, што ён — галадранец, забастоўшчык.

II.

— Скажы, брат — пытаўся адзін худы, высокі, як цаціліна, галадранскі мужык, гаворачы «брат» ўсей грамадзе, — што гэта за чэлавек? пэўне сацяліст!

— Гэтакі ён сацяліст, як ты, прымерам маей кабылі дзядзька, — атказаў яму Андрэй Палгорны, лёгкі на язык чэлавек.

Мужыкі зарагаталі.

— А ты, мусіць, знаешся не сацялістах, як мая свіньня на пастах.

— Разумны напаў на разумнаго, — сказаў стары Базыль, не выпушчаючы з зубоў люлькі.

— Нашлі за што сварыцца, — ўмешаўся Карусь с-пад карчмы: — Андрэй гаворыць праўду. Ці-ж сацяліст пойдзе да папа, або будзе лаяць сам сябе.

Галадранскі соцкі, Раман Камлюк, задумаў нешта сьмешнае, бо засьмеяўся сам сабе ў доўгіе вусы, але нікому не сказаў, чаго засьмеяўся, і пашоў да хаты.

Да мужыцкай грамады падыходзіў Янка Дудар. Яму было надта вясёла: ён сьпеваў на ўсю вуліцу:

«Будзе мяне жонка біць,
Німа каму бараніць».

Ногі ня слухалі Яняі пайшлі самі, як хацелі, адна у лева, другая—у права, а самЯнка падаваўся то у зад, то у перад, як воз сена, каторы уціскаюць на грэблі.

«Прадам пеўня, прадам курку»...

Зачаў Янка другую песьню.

— Глядзі, каб не падашукалі!

Прасцярог яго Андрэй Падгорны.

Чаго ты сьмяешся? — Накінуўся на яго Янка: — куст ты альховы! Ты знаеш, хто я? Я дэмакрат і забастоўшчык першай гілды. Хлопцы! браткі мае родныя! хадзем бунтавацца...

— А вун вураднік! пастрашыў яго стары Базыль.

— Гдзе ён?! — крыкнуў Янка, азіраючы мужыкоў: — падайце мне яго сюды!

Мужыкі пазіралі і цешыліся.

— Вось, Падла Янка! глядзі ты, што ён вычварае.

Нет ведама, што зрабіў бы Янка са сваім вураднікам, каб не прыйшла жонка. Яна трымала пад пахай мешалку.

— Вось, брат папаўся! Жартавалі мужыкі.—Сьпеваў, што «німа каму бараніць». Бараніся-ж сам.

— А каб ты смалы напіўся, гад! — крыкнула баба, і мешалка мельканула ў гары і гладка прыстала да сярэдзіны худога янкаваго цела.

— Што робіш? — крыкнуў, нібы сярдзіта стары Базыль на Дударыху: — не бачыш ці што? Іон зямлі і свабоды дабіваецца мужыком.

Мешалка паддала Янку сілы, і ён даволі борзда стаў на ногі.

— Арыштую! — крычаў ён на жонку: — не палагаецца насіць аружжа! У арыштанскіе роты аддам па 25 стацьці.

— Так, так, Янка! — партрымоўвалі яго мужыкі.

— Ваенна-палявым судом судзіць буду! — бушэваў Янка: — я — забастоўчык! а ты хто? Чорнасоцанец! от хто ты! — гаварыў Янка сваей бабі ужо ідучы да дому.

## III.

— Скажы мне, Раман, што гэта у вас за чэлавек зьявіўся? — Пытаў стражнік у соцкаго.

— А ці я ведаю.

— Мо-ж чуў што пра яго?

— Чуць то чуў, — ці мала што людзі гавораць.

— Прызнавайся, Раман, нечага адвільваць. Што ты чуў.

Раман агледзіўся ўвакруг і сказаў:

— Сацяліст!

— Ну?!

— Такіе рэчы гаворыць, што у Сыбір саслаць і то мала. Дае кніжкі і лісты раскідае.

Вот!

І Раман дастаў з-за пазухі праклямацію, каторую ён знашоў два гады назад, будучы у вуездным горадзе на перших выбарах.

У стражніка так і заблішчэлі вочы.

— Што ж? мужыкі яго слухаюць.

— Ды не!

— Ну, тут дык ты салгаў.

— Абы гладка вышла.

— А гдзе начуе ён?

— Усюды. Раз нават у папа начаваў.

— Як то у папа?

— Абмануў: сказаў, што яго кансісторыя паслала, і нейкі знак паказаў.

— Заўтра ў ночы чэкай нас тут с дзесяцкімі. А калі ён уцячэ, — ты атвечаць будзеш.

Стражнік вышоў, а Раман, стоячы, засьмеяўся.

## IV.

Ціха, асьцярожна краўся вураднік са стражнікам да вёскі Галадранкі. Вёска ўжо спала. Адзінокі месяц плыў над ёю, як сярэбраны круг. Абросшая вербамі, спакойна цекла рэчка каля самых хат, і дробныя хвалі, як жывые, пераліваліся і блішчэлі на месяцы.

Соцкі і два дзесяцкіх стаялі на двары, чэкаючы «начальства». Прыехаўшы да соцкаго, вураднік распытаўся аб соціалісту. А ўжо соціаліст спаў, як пшаніцу прадаўшы. Іон начаваў у папа. У вурадніка праняслося ў галаве арыштаваць і папа за укрывацельство. Але перадумаў і знашоў, што не варта, бо хітры соціаліст ня толькі папа, а і чорта абмане. Акром таго, поп скора ня ўздымецца і ўцякаць яму німа куды.

Поп вышоў на гоман босы, накінуўшы на сябе шырокі каптан.

— У чым дзела?

— У вас, бацюшка, праступнік начуе! — сказаў вураднік.

— Ня можэ быць!

— Аб гэтым будзем талкаваць потым... Звольце паказаць, гдзе ён.

Поп пабялеў і стаяў, як укопаны, толькі губы яго дрыжэлі, і ён шэптаў:

„Ад вешчы, ва цьме прахадзяшчыя, ад беса полудзеннаго“...

Увашлі ў пакой, гдзе спаў соціаліст. А таму і гора мала: сьпіць сабе на баку, толькі носам сьвішчэ і храпе, як Божы баранчык (так называюць адну птушку). Вураднік прыставіў да яго караул, а сам запусьціў руку ў яго дарожную раменную торбу і выцягнуў цэлую жменю лісткоў. Нікому і ў галаву не прышло паглядзець, што то былі за лісткі.

А «сыцыаліст» усё сьпіць, — проста вураднік ня ведае, як арыштаваць соннаго чэлавека. На помач яму прышоў соцкі. Іон папароў соціаліста, як мядзьведзя кіём. Схапіўся соціаліст, вытрашчыў вочы — і рукою пад падушку, гдзе лежаў рэвальвэр. Тут на яго накінуліся стражнік і дзесяцкіе. Усе зляпіліся ў вадзін клубок і некольні часу метушыліся па пакою. У канцы адзін дзесяцкі вырабіўся з гэтай кучы, напляваў на рукі і, скамандаўшы сам сабе: «Ну Сымон! вазьмі папраўдзі», згроб і стражніка і соціаліста, падняў іх на жывот, потым спрытна падставіў ножку і аблажыў абодвых.

— Каторы тут з вас сацяліст?—пытаў ён, седзячы на версе.

Стражніка аслабанілі, а соціаліста, катораму вураднік пасчытаў сваім правам даць па мордзі за спраціўленьне, звязалі.

— Як вы сьмееце? — крычаў сацыаліст — я член саюза рускаго народа.

— А гэта што? — паказаў вураднік на лісткі і рэвоьвэрл. — Цягні яго, хлопцы!

— «Яко счэзае воск ад ліца агня»,—маліўся поп.

## V.

«Сацяліста» вялі па пустой вуліцы. Цікавы месяц выплыў з-за белай хмаркі і, глянуўшы на гэту працэсію, мусіць засароміўся людзскога глупства, бо зараз-жэ схаваўся ў другой хмарцы; ды ешчэ сучка старога Базыля была сьведкай камэдыі, што разыгралася ў Галадранцы.

Усю дарогу думаў вураднік, якую карысць прыносяць на сьвеці людзям вураднікі.

«От, — думаў ён: ўсе сьпяць, а ты валачыся цэлую ноч, бойся кожны момэнт за сваё жыцьцё. Ласьне тут ёсць што-нібудзь труднае — дастаць сабе ў лоб кулю? А якая падзяка, — каб хто спытаў. Ну, прыстаў можэ падаць руку і заклікаць на шклянку гарбаты». Але гдзе-сь-то, на дне душы яго варушыліся другіе думкі, і яму прэдстаўлялася цэшка і прыстаўскіе наплечнікі. Стражнік, соцкі, дзесяцкіе, а такжэ і сам «сацяліст» так сама думалі, кожны на свой фасон. Але трудна залезьці ў чужую душу і ведаць, хто што думае. Усе маўчалі,

## VI.

— А ты добра зрабіў, што дагадаўся зайсьці да мяне! Такімі славамі сустрэў прыстаў вурадніка. — Бачыш, сюды прыслан член саюза рускаго народа...

— Ваша высокаблагородзе! я арыштаваў і прывёў да стану сацяліста, аб чым і маю чэсць лічна далажыць вам!—перабіў вураднік прыстава.

— Дзела харошае. Дзе арыштаваў?

— У Галадранцы, вашэ высокаблагародзе.

Тут прыставу нешта цюкнуло. Іон глянуў на вурадніка. Той стаяў і пазіраў на прыстава так, як бы

ён, вураднік, схапіў з неба зорку, або японскаго мікаду забраў у плен.

— Пашпарт у яго ёсць?

— Не спраўляўся.

— Гдзе арыштаваны? Пазваць сюды.

Вураднік кінуўся на двор.

Соцкі і дзесяцкіе ўвялі «сацяліста».

— Гаспадзін прыставў! — закрычаў «сацяліст»:—як дапушчаеце вы такое безабразе і сваевольства вашых належных?! Я жалавацца буду! Я—член саюза рускаго народа! Вот мае дакумэнты!

— Зьвініце,—сказаў прыстаў «сацялісту»—вышла абмылка.

Прыстаў грозна зірнуў на вурадніка. Вураднік апусьціў вочы і зірнуў на стражніка, стражнік — на соцкаго.

Соцкі стаяў бокам і сьмеяўся ў рукаў.

## У БАЛОЦЕ.

(Праўдзівае здарэньне).

### I.

Загразла ў балоце панская брычка разам с панскаю сямьёю, слугамі, коньмі, са ўсім панскім скарбам. Урэзалася яна ў гразь па самые калодкі, засела на сярэдзіне балота. Палягглі на чэравах коні і... ні тпррру!.. ні но!

Ніхто не чакаў такога здарэньня. Сядзяць, бедные, як мурашкі на купіне сярод лужыны. Беда прылучылася, як з грому! Але ня век жэ сядзець, злажыўшы рукі, — трэба-ж даваць якую раду. Першы апомніўся пан і ўзяўся за работу. Перш-на-перш трэснуў ён кулаком хурману у сьпіну, вылаяўся на ўсё балота і пусьціў у ход усю машыну. Хурман, узяўшы пугу, высьвенцаў коні. Коні задрыгалі нагамі, заварушыліся з аднаго боку на другі, і... машына стала.

Ясна, што трэба злазіць з воза. Злез хурман, слугі, пан, пані, паненкі. Месяцца па гразі, як мухі па сьметане, тупаюць вакруг брычкі, бядуюць, ахкаюць, охкаюць. Адзін радзіць тое, другі — другое; крычаць, таўкуцца, толькі эха ходзіць па балоце.

Больш за ўсіх працаваў хурман: ён махаў рукамі, аддаваў каманду, аж сам пан пачуў нейкі страх і скакаў пад хурманову дудку.

— Пхайце ў зад! — крыкнуў хурман ва ўсё горла і сам уляпіўся за аглоблю.

Пан упёрся плячом з боку; лякай, пані і паненк ўзад пхалі.

— Рразам! — крыкнуў хурман.

Ніхто не разшчытаў свае сілы: пані так моцна налягла, што ў гразь уляцела па калені; хурман сарваўся з аглоблі і ляпнуўся чэравам у балота, аж капялюш з галавы скінуўся. А пан як павярнуў плячом, дык аж брычку сарваў са шворна і аблажыў яе на бок.— Цяпер абраз змяніўся: пані, цераблючыся з гразі, згубіла чаравік; хурман поўзаў ракам па балоце, а пан стаяў, ўзяўшыся у бокі, і сам сабе не даваў веры, што ён абярнуў брычку. Беда, як бачыце разрасталася: коні ў гразі, брычка на боку бяз шворна, і толькі два колы пазіралі ў неба, як бы просячы ратунку.

## II.

А ратунак прышоў ня з неба, а з вёскі у образі простых мужыкоў. Мужыкі даўно ўжо стаялі каля балота, збіўшыся ў кучу, на ўзгорку.

— Ось нялёгкая ўнесла яго сюды!

— Папаўся як у нерад: ні ў зад, ні ў перад!

— Як ты думаеш: вылязуць яны, ці не? — пытаў адзін барадаты другога вусатаго.

— Бяз помачы самі ня вылязуць,—важна гаварыў вусаты.

У другой кучы жартавалі с пана.

— Кепскае мейсца ababралі яны для адпачынку!

— Ці ня думалі яны з брычкі рыбу лавіць?

— Як відаць, прыехалі сюды траву жаць целятам!

Жарты сыпаліся за жартамі, толькі сьмех разліваўся па балоці.

— Скідай, Андрэй, боты, ці што; ідзі хоць панемак вынясі на бераг.

Худы, высокі Андрэй вынуў з зубоў люльку, выпусьціў з рота дым і засьмеяўся, замахнуўшыся цыбуком над тым, хто падаў яму такую раду.

— А ўсё ж такі трэба памагчы пану, — сказаў стары Пятрусь.

— Пойдзем, паможэм!

І с пяцьдзесят мужыкоў паскідалі лапці, падкасаліся і сьмела сунуліся ў балота; толькі пырскі ляцелі с пад ног, ды ўздымаліся булбаткі.

— Памагай Бог! — гукнулі мужыкі.

— Дзякуй вам хлопцы.

Мужыкі ня скора прыступілі да работы. Яны сталі распытывацца: як? чаму? чаго? Ці ня выпіўшы быў хурман? Адзін разглядаў панскую брычку, шараваў рукою, хваліў, што добра памалёвана.

— Ну, хлопцы, годзі языкі мянціць! — сказаў стары Пятрусь: — а то і сонцэ нам зойдзе ў балоце. Бярэцеся.

— Бярэмся! Куды ж ты возьмешся?

— І як ты ездзіш, каб ты жыватом ездзіў? Гдзе твае вочы? — накінуўся Антось на хурмана.

— А ты не лайся...

— Не лайся, не лайся!—перакрывіў яго Антось:— дурня павучыць ня шкодзіць.

— Калі прышоў, Антось, памагаць, то памагай, бо вас ніхто не прасіў; мы і сваімі сіламі выратуемся — важна сказаў пан.

— Годзі, хлопцы, сварыцца, — ўмяшаўся ізноў стары Пятрусь. — Грыгор! камандуй ты.

З мужыцкай чарады выступіў Грыгор, шыракаплечы мужык з рудою барадою.

## III.

Грыгор борзда павёў дзела.

— Хлопцы, адвернем наўперад каляску. Ну, жыва! Вы, Антось, Яська, Базыль і Кірыла бярыце з боку, а ты, Ігнась, Карусь, Даніла і ты, Алесь, і Гаўрыла — з другога. О так! А цяпер ты, Гілёрык і Хлёрка, пад зад падтрымайце. Ну, рразам!

Мужыкі дружне падхапілі каляску і адвярнулі, а, адварочваючы, выкінулі панскае сядзэньне, адкуль пасыпаліся бутэлькі з выпіўкамі і вэндліна, заверчэная ў папер.

— Мядзьведзі вы!—крыкнуў пан:—толькі шкоды наробіце!

— Эх, пане, гдзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць, — сказаў Грыгор.

— Пусьці свіньню пад стол, то яна захочэ і на стол, — ня вытрываў і хурман.

— Ад свіньні чуем,—кажуць мужыкі.

— Ну, годзі, — работа ня скончэна,—камандаваў Грыгор: адцягнем покі што брычку, а перадок ніхай тут пабудзе. Жыва, хлопцы, жыва, — будзе водка і піва.

— На што цягнуць?! — зыкнуў пан. — Прышварнуўце толькі яе да перадка...

— Не, панок: так будзе горш,—стаяў Грыгор на сваём, а мужыкі яго падтрымывалі: — наўперад адцягнем брычку на груд, каб аслабаніць мейсцо, бо каней трэба скарэй выцягаць. Ня выпрагшы, нічога ня будзе.

— На што іх выпрагаць?..

— Але ж мы, пане, лепей ведаем...

— Да што вы ведаеце? з носа ды ў рот...

— Але-ж ніхай пан паслухае, — сказаў Грыгор— мы жыва адцягнем брычку на груд, выпражэм коні

бо з брычкаю яны не ўстануць. Сам пан бачыш, як гразь развварушэна.

— На што нам у брод ісьці, калі кладка ёсць!? Рабіце, што я вам кажу!

— Прышварнаваць то можна, але нічога ня будзе.

Брычку прышварнавалі да передка. Пан узяў пугу і скамандаваў:

— Пхайце, хлопцы, — а сам бье коні ды крычыць: Но! но! но!

Бедные коні варушыліся ўсім целам, біліся галавамі аб балота і адзін аб другога, ўсхватваліся, зноў кідаліся і ешчэ глыбей у гразь лезьлі.

— Да слухай пан людзей! што пан робіш? — ня вытрываў стары Пятрусь: — мы выцягнем самы!..

— Пхайце, прахвосты! чаму не пхаеце?

— Куды пхаць? — разззлаваліс мужыкі: — гэта-ж не гладкая дарога. Тут панская каманда нічога не паможэ. Трэба с толкам...

— Або слухайце вы мяне, або убірайцеся к чортавай мацеры! — крыкнуў пан.

— Не, мы да дому пойдзем, — сказалі мужыкі: — а покі што — добрай ночы!

І пашлі.

На зямлю ціха апускалася ноч...

А брычка і коні ўсё глыбей і глыбей у гразь лезьлі...

## КАЛЯДНЫ ВЕЧЭР.

Здаецца і сам сьвет гатовіўся як можна лепш сустрэць Калядны вечэр.

Было ціха. Над белаю зямлёю звісьлі бязхорменые сівые хмары. Лес перэстаў хістацца, маўчаў, закрыўшыся белым інеем, усё роўна, як узлажыў к сьвяту чыстую кашулю. А стройные ёлкі падымалі свае голавы высока над другімі дзярэўямі, і хораша вырысоўваліся ў небе іх вяршыны, як крыжыкі, як вежы цэрквей.

За дзень перад Куцьёю лясьнік Тарас ешчэ да сьвету ехаў гасьцінцэм у горад N. Кожны год давадзілася яму ездзіць перад Калядамі ў замак. Гэта язда падабалася Тарасу: яго пасылалі, як растаропнаго служаку, а ў замку яго зналі ўсе паны і любілі яго. А самае важнае тое, што Тарас возьме з гораду свайго сына, Паўлюка, каторы апошні год вучыўся ў сэмінарыі. Паўлюк—гордасць Тараса, прычына людзкой зайздрасьці.

Тарас купіў на дарогу пачэк папярос за тры капейкі, каб не так сцішна было аднаму ў полі і каб не вазіцца с курэньнем на холадзі. У палукашку ў санях ляжала штук пятнадцать зайцоў, рыба, сушэные грыбы. Гэта — гасцінец к куцьці замковым паном ад пана лясьнічаго.

* * *

Тарасава пасада стаяла каля самаго лесу, каторы цягнуўся, як падкова, роўным паўкругам. Тут жэ каля

хаты цякла рэчка-крыніца. Толькі самые трэскучые марозы засьцілалі яе плёнкаю лёду.

Цяпер ў Тарасавой хаце кіпела работа, — гатовіліся к сьвяту, к Каляднаму вечэру, таму вечэру, катораго так нецярпліва чэкаюць дзеці і каторы так многа прыносіць радоснаго ў шэрае жыцьцё простаго чэлавека.

Два старшые Тарасавы сыны — а яны ўжо былі праўдзівые дзяцюкі — ухаджываліся на дварэ: загатаўлялі каровам трасянку, секлі і пілавалі дровы. А іх дзядзька, Андрэй, меншы Тарасоў брат, залажыўшы сякерку за пояс, пашоў трэсьці свае кошыкі. Андрэй быў заўзяты рыбак.

А самая важная работа ішла ў хаце.

Сягоньня Кася раней запаліла ў печы. Белаваты дымок роўна падымаўся ў гару і расплываўся высока ў ціхім марозным паветры. Каля печы стаяў ужо заслон, накрыты чыстым настольнікам. На адным яго канцы стаяла ражка з цестам. Скаварады весела брэнчалі па прыпеку, і мягкіе, гарачые аладкі, як грушы, кідаліся спрытнаю рукою Касі. Уся лава проці печы была застаўлена міскамі, гарнушкамі, гаршчкамі з усякімі прыпасамі для вячэры.

Пачынала зьмеркацца.

У покуці на сене ўжо важна стаяў гаршчок с куцьёю. Мужчыны ухадзіліся і цяпер мыліся ў ночвах. Дзядзька засеў брыцца.

Малышы даўно ўжо памыліся, прыбраліся і гатовы былі сесьці за стол.

У хаці было ціха. Усе стараліся трымаць сябе як можна дэлікатна. Нават гарбуз Міхась вёў сябе, як сталы чэлавек.

Невялічкая лямпачка, вісючы над сталом, прыдавала хаці нешта незвычайнае і новае.

Вясёлы вечэр! Усе нецярпліва чакалі Тараса і Паўлюка, асабліва Паўлюка. Такі ён быў слаўны хлопец! Ды й бачылі яго даўно — поўгода, дзякуй Богу, ўжо прайшло, як Паўлюка не было дома.

* * *

— Міхась! Міхась! хадзі сюды!—падклікаў да сябе Пятрусь Міхася.

Два браты, самые меншые Тарасовы сыны, выбіралі цёмны куток і пачыналі вясьці гутарку.

— Ну, гдзе, ты думаеш, цяпер Калядыʔ—пытаўся Пятрусь.

— Гдзе жʔ—атказаў ня думаючы Міхась:—ў Мінску. За гадзіну і к нам прыдуць.

— Ото дурэнь! ці-ж можна за гадзіну прыйсьці з Мінска.

— Дык яны на машыне прыедуць, — не здаваўся Міхась.

— Дурны ты! Каляды-ж не жывые. Дзень такі— Каляды, сьвята, — тлумачыў Пятрусь Міхасю.

Тут і гутарка на мінуту абрывалася.

— Зараз прыедзе тата с Паўлюком, — пачынаў Міхась, як-бы гаворачы сам с сабою, і яго круглые цёмные вочкі былі поўны ціхіх думак.

Усе ў хаці чакалі Паўлюка і аб ім толькі і думалі. Дзядзька Андрэй зрабіў яму пекную шафку для кніг і прыбіў яе каля сьцяны, гдзе спаў Паўлюк. Маці паклапацілася напхаць мягкі сяннік і прыгатаваць чыстую пасьцель. Старшы сын, Алесь, разстараўся другую стрэльбу, каб пайсьці с Паўлюком на зайцоў. А Пятрусь і Міхась вывучылі ўвесь буквар, бо Паўлюк дэкляраваў ім за гэта кніжок з малюнкамі.

Міхась с Пятрусем тым часам гаварылі ізноў. Цяпер рэч ішла аб вячэры.

— Ты толькі, Міхась, не накідайся адразу на яду, — асьцерагаў Міхася Пятрусь: — бо мама што раз будзе даваць смачнейшую страву. Я летась падашукаўся. Паставілі верашчаку, дык я давай хлыстаць. Потым даюць квас, ды такі смачны. Я за квас. Далей смажэная рыба... Вячэра ешчэ ў палавіне, а мяне ужо хоць на пупі круці.

— А заўтра мы будзем шукаць на стале зерняты?

— А як жэ? І якіх зернят больш будзе, тое збожжэ на лета лепш уродзіцца.

— Алесь ёлку нясе! — крыкнуў Міхась.

Харошэнькую, зялёную, купчастую ёлачку паставілі каля стала.

— А ёй тут добрэнька: цёпла! — гаварыў ён і заліваўся вясёлым сьмехам.

* * *

На дварэ забрахаў стары Жук. Усе кінуліся к акну.

— Прыехалі!

Андрэй з Алесем, накінуўшы кажухі, пашлі спатыкаць Тараса с Паўлюком...

Вот зараз адчыняцца дзьверы, і на парозе пакажэцца фігура Паўлюка з маленькімі, цёмнымі вусікамі і шчасьлівым тварам.

Кася абцёрла хвартухом вусты. Лёгкая дрыготка прабегла па яе целу. Міхась с Пятрусем палезлі на печ. Дзеўчаты стараліся ўзяць што-нібудзь у рукі і цікавалі на дзьверы.

— Што-ж яны там кошкаюцца? — нецярпелася мацеры.

А яна ўжо некалькі разоў перад гэтым выхадзіла маўчком на двор і пазірала на дарогу. Стаяла, слухала, ці не пачуе ў лесі знаёмае «Но!..»

Цераз некалькі мінут у хату вайшоў Тарас. Вусы яго былі белые ад марозу. Нешта смутнае праняслося у Касі.

— А гдзе Паўлюк?

Тарас быў хмурны. Было відна, што многа горкіх думак бушавала ў яго душы.

Тарас маўчаў. У хаці зрабілася нудная цішына.

— У турме наш Паўлючок! — як стогн вырвалася ўрэшці з грудзей Тараса.

І ў хаці стала ешчэ цішэй, ешчэ нудней...

## ЗОРКІ — АНЁЛЫ.

Настала ночка Новаго Году, ночка хаця марозная але ціхая, спакойная... З высокага пацямнелага неба блішчачые зоранькі, нібы ясные вочы Анёлчыкаў, як-бы зацікавіўшыся, што ўнізу робіцца, пазіраюць на зямлю...

Бач: адна... другая замігацелі мацней, задрыжэлі і пакаціліся... Ці то былі зоркі?... Не! Старые людзі кажуць, што гэта ёсць Анёлы Божые, злятаючые да людцоў, толькі мы грэшные ня можэм іх бачыць. А злятаюць яны, гэтые Анёлы — Думкі Божые, каб зрабіць перэгляд паступкоў добрых і злых Стараго Году, каб спаткаці Новы. На скрыдлах лёгкіх быстра панясьліся яны над нашаю сьлёзнаю зямліцаю, над палацамі гэнералоў, вялікіх чыноўнікоў, багачоў, над вясковымі хатамі. І убачылі яны, як сярод ночы, сярод беднаты людзкой засьвяціліся агнямі, загрымелі музыкаю палацы і самы багачы у дарагім адзеньні, с крыжамі, з мэдалямі на грудзях пасядалі ў салях за шырокімі і доўгімі сталамі — пасядалі есьці дарагіе стравы, смагла заліваючыся заграні́чнымі вінамі. Аж стагнаньне вялікае народу, раптоўне прыляцеўшае з усіх канцоў краю, многа, многа сказало прыслухіваючымся Зоркам—Анёлам: вытлумачыла яно ім, дзеля чаго гэтые людзі цешацца, што яны зрабілі... Што дзеля карысьці сваей здушылі яны мільёны народу, забралі апошні ад яго грош, залілі кроўю зямліцу, выціснулі апошнюю сьлязу у нешчасных удоў і сірот...

І здалося тагды Зоркам — Анёлам, што гэта банкетуюць ня людзі, што ядуць яны людзкое мяса, што запіваюць не чырвонымі ды белымі заграмічнымі вінамі, а сьвежаю кроўю дый сьлёзамі свайго жэ народу. І устрэпянула іх згроза вялікая, калі пачулі ешчэ, як пры громі музыкі віншавалі сабе выграну над народам, як жычылі тагож і ў Новым Гаду...

І хмурные, гнеўные Зоркі — Анёлы кінулі на закасьцянелых у сваей пысе і злосьці людзей суровы пагляд, прашэпталі над галавамі іх словы праклящьця смутные панясьліся далей...

А там, у полі, ў полі шырокім ляжалі пад сьнегам бедные вясковые хаты... Пара была ўжо позная. Дзене-дзе толькі сьвеціліся вузкіе, маленькіе ваконцы. Людзі замучэные і прыбітые цяжкай доляй стараго году спалі — спалі, хто мог, каму не дакучалі раны або голад. Не было тутака вясельля — німа і цяпер радасьці. Беда, горэ, голад ды холад злучыліся, каб прагнаць згэтуль усякую весялейшую думку, ясьнейшы сон...

І заплакалі Зоркі — Анёлы над гэтакай доляй, над гэтакім палажэньнем мужыка, бо успомнілі яны палацы... Заплакалі сьлязмі скаргі, сьлязмі жалю... І, абняўшы за галаву беднаго, шаннулі яму нешта аб жыцьцю без гора, аб жыцьцю лепшым, вольным... І сказалі яму гэтые Зоркі — Анёлы ешчэ нешта: сказалі, што ня ўсе людзі кепскіе, што ёсць і такіе, ў сэрцы каторых гараць зоркі ясные, зоркі каханьня, справедлівасьці, што сілы агню зорак гэтых ня здушыць ніхто і ніщто, што загарацца некалі яны агнём вялікім, запаляць і спаляць сьвет злога...

Прыслухваючыся да гэтых думкаў, бедны і абяздолены мужык ціха усьмехнуўся да іх, усьмехнуўся і уздыхнуў уздохам просьбы і надзеі...

КІРМАШ.

I.

— Адно-ж ты, Пятруська, ня баўся на кірмашы. Сюды-туды. ды й да дому. Прыедзь хоць раз, як чэлавек.

Кожную нядзельку дзяўбла Кася Пятрусю адно і тое, і Пятрусь іншы раз і засярдуе. Яму не падабалася такая апека жонкі.

— Ото як ты баішся!

Пятрусь сеў на воз, сірзіў сваю злосць на кані, катораго сьцебануў пугаю разоў тры, каб за одно нечага і жонцы задаць страху.

Палавіну дарогі — а гэта будзе вёрст пяць — Пятрусь быў сярдзіты. Падумаць, дык выходзіць, што жонка кажэ праўду: ці-ж добра, каб хто спытаўся, прапіваць грошы? І Пятрусь стаў думаць аб тым, як ён ужо разоў двадцать дэкляраваў жонцы ня піць гарэлкі, і заўсягды прыежджаў да дому пьяны; як ён ашукваў яе, прыкідваючыся цьвярозым, для гэтаго ён стараўся хадзіць роўна. Часам яму і ўдаецца зрабіць колькі роўных крокаў, а потым пазіраеш, гарэлка павядзе ў бок. Тагды ён кідаўся на другую хітрасць.

— Ое-ёй!—стагнаў тагды Пятрусь:-от же кальнула! Бадай ты згарэла!

Пятрусю рабілася брыдка прад самым сабою ад адных гэтых думак.

— Не, трэба такі кінуць піць,—гаварыў сам сабе Пятрусь і развясельваўся.

Прыехаўшы да места, Пятрусь выпраг каня, павесіў яму на галаву торбу з сечкаю і аглядзеўся. Усё места было застаўлена вазамі. Мужыкі хадзілі ў лапцях і мясілі балота. Каля вазоў снавалі жыды і жыдоўкі. Хто прадаваў масла, хто сала. Тут жэ стаялі цэбры, рашкі, вёдры. Усякаго было народу. Былі і такіе, каторые нічога не куплялі і не прадавалі, а прышлі так сабе «на раздабыткі». Прыдзе сабе ў краму, патупае, патупае, а як гдзе што кепска ляжыць, то і запусьціць лешча. А калі яго лавілі, то ён спакойна гаварыў:

— Колькі гэта каштуе, Малка?

Аглядзеўшыся вакруг, Пятрусь пашоў рабіць свой абход з мяшочкам і с торбачкамі пад пахаю. Трэба ўзяць солі, мукі, атрубоў.

Куча народу. У сярэдзіне важна сядзіць рускі разлажыўшы сваіх багоў. У другой грамадзе народ акружыў жыда с круцёлкаю і пазіраў, як прабаваў хто шчасьця, клаў дзесяткі і грыўні і круціў. Каму пападаўся кубак, каму мыла, каму іншая рэч, а каму, як кажуць добрые людзі, гула асмаленая.

Трэйця, ешчэ большая грамада народу, стаяла каля дому з вывескаю: «Казённая вінная лаўка № 67». Тут былі бабы і мужчыны. Хто выбіваў корак с кварты, с поўкварты, а хто, адвярнуўшыся ад людзей, каб не сароміць іх, з маленькаго кручка. З двадцаць мужыцкіх галоў было задрана ў гару так, што нос прыходзіўся як раз проці самой сярэдзіны неба. Хто піў з вялікай бутэлькі, той трымаўся сьмела: станавіўся на самае віднае мейсцэ, падпіраў аднэю рукою бок і важна цягнуў гарэлку. А калі хто йшоў з «буслам», прад

тым мужыкі разступаліся і давалі дарогу, як якому спраўніку.

## II.

За гоманом трудна разабраць, хто што гаворыць. Вот дзьве бабы. Адна апёрлася на воз з аднаго боку, другая з другога. Абедзьве выпіўшы. Адна гаворыць груба, другая тонка. Мова першай бабы падобна да кароткіх слоў.

— Ды-ды-ды-ды!

Другая сыпала танчэй і ешче скарэй:

— Дэ-дэ-дэ-дэ!

На другім возе сідзяць тры мужыкі. Два з іх абнімаюцца і цалуюцца.

— Братка ты мой!—гаворыць адзін:—твой Алесь—золата, а не чэлавек.

— Галубок ты мой! — кажэ другі: — дальбог я цябе люблю. Каб я жонкі ня ўбачыў, калі не люблю. Дай сюды сваю морду... во так!

— Пойдзем, ешчэ выпьем поўкварты.

Два шчырые сябры злазяць з воза, абнімаюцца ацзін аднаго падтрымоўваюць і ідуць да манапольки.

— Га, Пятрусь, і ты тут? — сустрэў Пятруся Карусь Акалот, у катораго вочы былі ўжо як у салавейчыка, а з губы нясло, як з бочкі.

— А вот, як бачыш,—сказаў Пятрусь.

— Ідзі, брат, паглядзі, якога я купіў падсьвінка.

Карусь схапіў Пятруся за рукаў і павалок яго глядзець падсьвінка.

Пятрусь пахваліў гэту маладую асобу і сказаў Карусю, што добра купіў.

— Добра кажэш?

— Вядома, што добра.

— Калі та, то пойдзем у «Порт-Артур».

«Порт-Артурам» мужыкі назвалі хатку, што стаяла разам с крамкаю. Гэта хатка заўсягды была пайнютка людзей. Там стаяў такі шум, крык і гоман, што аж глушыла. А раз зайшоў у «Порт-Артур», то выйсьці адтуль не так-то лёгка: ці мала там сустрэнеш добрых людзей?

— Не, не пайду! — сказаў Пятрусь.

— Чалавек! па чарцы! — угаварваў Карусь.

— Німа, брат, часу, — стаяў Пятрусь на сваём.

— Колькі там таго часу? Поўгадзіны, ня больш. Хадзем!

Пятрусь трохі упіраўся але такі пашоў. «Чарку, дзьве, ня болей», думаў ідучы Пятрусь.

С «Порт-Артура» ён шоў надта вясёлы і сьпеваў

«Наплеваць мне на падатак.
Што мне пісар, старшына?
Лейба! торбу на ў задатак,
Дай жэ крэпкаго віна!»

## III.

Вечэр быў хмурны. Ні зор ні месяца.

Ускаціўшыся на воз, Пятрусь завязаў лейцы за аглабіцу і лёг.

Увесь сьвет, здавалося яму, скакаў лявоніху. Калі-не-калі Пятрусь падымаў галаву, крычаў: «Но, малы!», цмокаў губамі і сьвістаў.

«Добра мера, хоць без грошай,
Абы празнічак харошай»!..

цягнуў часамі Пятрусь песьню, лежучы на возе, вугнівым, хрыпатым голасам. Глуха і нудна заміраў яго гнусавы голас ў цішы асенняй ночы.

Конь ішоў памалу, як хацеў і кудою хацеў. Ра-
зоў некалькі зачапіў ён восью аб хвою і скінуў атосу
Цялежка стукалася аб карэньня, плюхала па гразі і ка-
цілася бокам. Такім парадкам пракацілася яна вёрст
тры. У адным мейсцу, каб абыйсьці гразь, конь звяр-
нуў з дарогі, усьцягнуў драбіны на пень, сарваў са
шворна цялежкі і аставіў драбіны с Пятрусем сярод
лесу, а сам паклыгаўся с цялежкамі далей.

Палежаўшы с поўгадзіны, Пятрусь падняў галаву,
цмокнуў і крыкнуў:

— Но-о-о, малы, варушыся!

Было ўжо зусім відно, як Пятрусь прачухаўся
трохі і падняў галаву. Што за ліха?

— Што гэта? Гдзе ж гэта я? Тфу! тфу! тфу!
Згінь, прападзі! Васхрыстус! васхрыстус!

І Пятрусю ўспомнілася ўсё.

Божэ-ж мой, Божэ! Што я зрабіў?! Загаласіў
Пятрусь, заламаўшы на галаве рукі.

Стыд перад жонкаю, перад людзьмі, злосць на
самога сябе, на тых, хто выдумаў гарэлку, прапажа
каня,—ўсё гэта зьвязалася ў вадзін клубок гора і па-
куты.

— Ну, не сабака-ж я, не гад, не лайдак? Што
раблю найлепшае? Чаму ты, Божэчка, не напусьціш
гню на гэту атруту людзкую?!

Зняў Пятрусь драбіны, сеў на пень, закрыў твар
стаў плакаць.

— Што рабіць, што чыніць?

Папрабаваў быў Пятрусь цягнуць да дому адны
драбіны і нават падцягнуў іх с паўвератня.

— Не! Як я пакажуся людзям у вочы? Прапіць
каня і самому цягаць драбіны?

Іон звалок драбіны з дарогі і, апусьціўшы га-
лаву, пашоў да дому. Падышоў ён з вярсту, бачыць—

стаіць яго конь с цялежккамі, зачапіўшыся лейцамі за корэнь.

— Конік ты мой залаценькі!—закрычаў з радасьці Пятрусь і пацалаваў у самую мызу свайго худога мышака.

А потым пацалаваў Пятрусь зямлю і пакляўся перад небам, што ніколі ня будзе піць гарэлкі.

# ЖЫВАЯ ВАДА.

## (Казка).

### I.

Даўно, даўно, не за нашу памяць, было гэта. Шчасьлівы то быў вугалок Божаго сьвету.

Вольна жылося людзям ў тым вугалку. Ніхто іх ня гнаў, ніхто іх ня крыўдзіў, нікому яны не належалі. Багатая уродлівая была іх зямля. Широка раскінуліся іх паля, зялёные травы сенажацей калыхаліся на ветру. Ціха і весела сьмеяліся кветкі, пазіраючы сваімі пахучымі галоўкамі ў рэку, каторая паіла ўвесь той вугалок і тых, хто жыў і рос там, і давала яму жыцьцё. Усё жыло каля рэкі; гэту рэку людзі называлі Жывою Вадою. Усё жывое і нежывое любіла яе, і песьні волі разліваліся па ўсіх кутках шчасьлівай старонкі.

Але ня доўга астаецца шчасьце на адным мейсцы. Кінуло яно і той слаўны вугалок Божаго сьвету.

Нешта страшнае і непанятнае для чэлавека зрабілося там. Нейкая цёмная сіла пазайдросьціла шчасьцю людзей. У тым мейсцы, аткуль выцекала Жывая Вада, зямля стала ўздувацца; борзда, як грыб, вырастала гара. А Жывая Вада пачала нeяк мелець і скора саўсім згінула гдзесьці ў зямлі. Толькі сьлед, гдзе цекла яна, надоўга астаўся на зямлі і гаварыў людзям пра даўнейшае жыцьцё.

Гара ўсё расла. Прахадзіў час, пусьцела зе мля з гары сыпаўся жоўты пясок і закрываў чорны гр унт

Людзі збяднелі; птушкі разляцеліся Не чутно ўжо было там вясёлых песень. Толькі арлы ды каршуны вілі свае гнёзды на высокай гарэ, каторая ўсмактала ў сябе Жывую Ваду.

## II.

Бяднеў год ад году калісь-то багаты край. Ураджайны грунт засыпаўся зусім пяском. Многа працавал людзі, многа пралівалі поту. І праца іх прападала, і скупа плаціла зямля за іх работу і пакуту. Развяліся чэрві на іх агародах — некаму было знічтажаць іх, бо каршуны і ястрэбы разагналі птушэк.

Расказваў бацька сыну пра даўнейшае жыцьцё пра багацтва іх края, пра гару, каторая глынула іх Жывую Ваду, сама стала расьці, а жыцьце ўсяго края прыгаварыла к маруднай сьмерці. Глухая злосьц на праклятую гару падымалася ў сэрцы людзей, і памяць аб Жывай Вадзе не прападала.

Не мала знаходзілося сьмелых людзей, каторые шлі на гару шукаць Жывой Вады. Бралі яны рыдлёўкі, абкопывалі гару. Але з гары сыпаліся ў іх камені, разбівалі ім голавы. Каршуны і ястрэбы злеталіся хмарамі, выдзёўбывалі ім вочы. А пугач і сава ў ночы сьпевалі ім «вечны спакой» сваім нудным крыкам. — Многа, многа людзкіх касьцей валялося вакруг гары, а каршуны і крумкачы разнасілі іх па ўсіх кутках спустошэнато края... І людзі празвалі сваю старонку «Мёртвым Полем».

Дзіка і пуста стала ў «Мёртвым Полі». Людзі хадзілі, як цені, халодные, сярдзітые. Птушкі даўно перэсталі там сьпеваць свае песьні. Толькі каршуны кружыліся ў небі, каркалі крумкачы і наганялі нуду на душу людзей, невядомым страхам палохалі сэрцэ.

розум... Нават лес адмяніўся: старые дзярэўя даўно згнілі і ляжалі ў зямлі, а новые былі нізкіе, крывые, неўдалые, як сухотные. Рэдка заглядалі туды хмары, і мало калі падаў дошч.

## III.

Насталі сухіе годы. Апошні выдаўся такі год, што ні разу не падаў дошч на ўсё лета. Кожны дзень неба аставалося чыстым, ясным, гарачым. Усходзіла сонцэ, борзда сушыла расу, што блішчала ранкам, як слёзы, на лісцях бярэзіны. А сухі вецер гуляў над зямлёю, падымаў гарачы пясок, высысаў апошніе сокі з зямлі. Лес, поле, луг з нудною мальбою пазіралі на неба, прасілі вады прагнаць сваю смагу. Дзярэўя глуха шумелі і злівалі свой шум ў вадну доўгую, невядомую людзям песьню. Жалосна ківаліся коласы ў полі, то кланяліся зямлі, то падымаліся к небу, ўсё роўна як прасілі яны ратунку. Ніхто ня шоў ім на помач, і яны без пары старэліся, жоўклі і без жыцьця качаліся на сухіх саломках. Трава і кветкі толькі ціхутка шэпталі ветру аб сваей нядолі. Церпелівые камені і тые нылі ад жару і лопаліся. Сама зямля зморшчылася, як старуха, пакалолася і плакала. Яе сьлёзы апошнімі капелькамі расы выступалі на верх; яе просьба белаватым туманам звісала над лесам і разнасілася ветрам Бог знае куды.

Плакалі людзі, плакала зямля і ўсё, што расло і жыло на ей. Незаметна нясьліся к небу іх сьлёзы; нясьліся яны ня год і ня два, а цэлые векі, і там негдзе сплываліся ў адно месцо. Тые сьлёзы, горкіе скаргі, ўсё горэ зямлі — змешаліся разам і звісьлі над ёю страшнаю чорнаю хмараю...

IV.

А гзе-ж дзелася Жывая Вада?

Яна была пад зямлёю. Яна па-ціхоньку размывала зямлю, прабівала сабе дарогу на Божы сьвет. Ніхто гэтага ня ведаў. Ня ведала і гара, што вісіць яна над бездонніцаю. А Жывая Вада чакала толькі шчасьлівага здарэньня, каб скінуць з сябе ценжар,—праклятую гару, што з шчасьлівага вугалка зрабіла «Мёртвае Поле».

І настаў такі час, што пралітые сьлёзы перапоўнілі неба і паліліся назад на зямлю. Не ў сілах было самае неба стрымаць тые сьлёзы. Самы яны рваліся туды, гдзе радзіліся па-троху, падымаліся ўверх. Людзкая жалоба, горэ, пакута, ўсё нешчасьце зямлі, што накапляліся тысячамі гадоў, паліліся цяпер са сьлязьмі адною хвілею. Ціхая скарга грымела ў небі страшным голасам Бога і калыхала ўсю зямлю; стогны людзкіе, каторых ніхто ня чуў, блішчалі маланкамі, а сьлёзы цяклі халоднымі, чыстымі ручьямі на зямлю і ажыўлялі яе. Вада зьбіралася ў вадну рэку і дружна стала напіраць на гару.

Зрушылася гара; моц яе, каменьня, градам сыпаліся на ніз. Арлы, каршуны, крумкачы, ястрабы, совы пазляталі з гары, каб запыніць ваду.

Пачула і Жывая Вада, што робіцца над ёю. Сабрала яна ўсе сілы свае і ўскалыхнула гару, як купіну. Тут яе падхапіла дажджэвая рэка. Страшны шум пайшоў па «Мёртвым полю».

Усё жывое дрыжало ад страху і чакало пагібелі. Але пагібла адна гара. Пяском і дымам развеялася яна па полю.

Гневалася неба, бушэвала вада, трэслася зямля. Ліліся рэчкі па кожнай разоры і зліваліля з Жывою Вадою.

Прайшоў страшны момэнт, і стала спакойна. Вада ўся злілася ў старое дно Жывой Вады. І жыцьцё, стрыманае праз доўгі час гарою, ізноў пашло сваею дарогаю, і ажыло «Мёртвае Поле»...

## АНДРЭЙ ВЫБАРШЧЫК.

### I.

— Ну, Андрэй! глядзі-ж трымайся, — ведай, за каго падаць голас!

Так гаварылі мужыкі свайму ўпоўнамочэнаму, выпраўляючы яго ў горад на выбары дэпутатоў.

— Не ганіся за панскаю гарбатаю, бо пан часамі і лісіцаю можэ прыкінуцца—і руку табе падасць, і нават пацалуецца с табою.

— А што мне іх гарбата! Я і сваю скарынку хлеба з'ем, — гаварыў Андрэй: — не такі я дурэнь, каб прадацца за гарбату.

— Праўда, праўда, Андрэй! табе і дэпутатам ня брыдка быць за такіе словы.

— Так, брат; у іх на языку мядок, а на сэрцы лядок.

— Эх, дзеці, вы дзеці! — махнуў рукою стары Хлёрка:—нічога, як я бачу, ня будзе з гэтых выбароў.

— Як то ня будзе? Каб ўсе махалі так рукамі, то і ніякой не было б Думы.

— Ты хочэш, каб к табе сама зямля с печы ў рукі прышла?

— Свабоды Бог з неба ня скіне!

— Вядома!

Стары Хлёрка засаромяўся і хутчэй схаваўся за мужыцкіе спіны.

— Сьмела Андрэй, рэж там ў горадзе праўду!

Андрэй хацеўсказаць мужыком цэлую прамову, але ўсякіх думак так многа наплыло ў яго, што ён ня ведаў с чаго пачаць, і толькі сказаў:

— Ну, братцы, бывайце здаровы.

— З Богам, з Богам, Андрэй!

І Андрэй закінуў на плечы палку, на каторай была торба с хлебам і салам, і пехатоў пашоў на вакзал.

## II.

Мужыкі нецярпліва чэкалі Андрэя з выбароў. На трэйці дзень, на каторы Андрэй павінен быў прыехаць да дому, цэлая грамада мужыкоў ў доўгіх кажухох з люлькамі высыпала на вуліцу каля манапалькі і шумела, як лес у вецер.

А як рабіць тут не было чаго, то сягды-тагды можна было чуць, як стукала саракоўка аб тоўстую мазолістую руку і як галгатала гарэлка перэліваючыся проста з бутэлькі ў мужыцкае горла.

Тут былі і такіе, каторые ўжо усьпелі налізацца, і сьпевалі песьні. А Антось Байбак нават пашоў ў скокі, і барапаваў пясо кна вуліцы старымі ботамі, на каторых не хватала аднаго апцаса.

— Андрэй ідзе!І дзе Андрэй!

Гоман як бачыш сціх, і ўся грамада заварушылася, як адзін чалавек.

Толькі адзін Антось Байбак не хацеў злучацца з грамадаю і не перэставаў араць пясок, крычучы, каб на яго пазіралі, бо ён паказваў, як даўней скакалі лявоніху.

Але на яго ніхто не пазіраў.

Андрэй шоў, апусьціўшы галаву. З адной кішэні доўгаго сіваго халата тырчала турэцкая булка, як раменны мужыцкі чук.

Мужыкі цесна абступілі Андрэя.

— Ну, чым жэ ты пацешыш нас, Андрэй?

Андрэй махнуў рукою, і першае яго слова насіла імя той рэчы, каторую мужыкі на поле вывозяць.

— Каго ж выбралі?

— Папоў ды чыноўнікоў.

— А ты гдзе быў, карова ты? Чаго глядзеў? — накінуўся на Андрэя пьяны Антось: — да я б ім нюхаўкі параспарваў бы!

— От ты ідзі лепш скачы лявоніху, — парадзілі яму мужыкі.

— Няхай вы па жары скачэце,—агрызнуўся Антось і плюнуў.

— А яны стаяць за мужыкоў? — пыталі ізноў мужыкі.

— Гдзе бачылі! Усе чорнасоценцы. І прыступу да іх німа.

— А гарбатаю вас не частавалі?

— Чаму не? Але чорт яе піў. Гатовы сказаць ешчэ што мужыкі жывуць па-панску. Гаварыў жэ адзін стрынгаль, што сорак галоў таму мужыкі елі мякіну.

— Трэба было сказаць, што цяпер і гэтаго німа, — загаманілі мужыкі.

— Дык мы і зрэзалі гэтаго пана, аж брыдка яму стала... А які́е яны былі добрые! Проста хоць да раны прылажы. — А як прывязаўся быў да нас адзін саюзнік, — проста хоць ты махалам махай — злаваўся, не адчапіцца ад яго. Адзін з нашых раз і сказаў: «хоць, і пойдзем, але вушы заткнём, каб ня чуць вашай гутаркі».

— Гэта ўсё роўна як той паляшук, катораго сілаю валаклі да цэркви. Бачыць, што нічога ня будзе, — «хоць, кажэ і пайду, але і губаю і рукою не мяльну!» — сказаў адзін мужык.

А раз, браткі, такая вышла штука. Зашлі да аднаго выбаршчыка. Ніхто ня ведаў, што ён — прадседацель «саюза рускаго народа», і аблаялі мы гэты саюз з астатніх слоў. Выбаршчык ўсё слухаў ды вачамі моргаў, а потым як усхопіцца, ўсё роўна як на шыла сеў, ды як крыкне: «Гарадавых пазаву!» Дык мы, брат, ходу. Грыгор з N павету, бегучы з другога пёнтра, зачапіўся ботам, пасьлізнуўся і пералічыў задам ўсе ўсходы. Дык мы, гэтаму выбаршчыку кінулі ўсе чорные галкі, але ўсё роўна яго выбралі — што мы значым? Колькі нас? Як выбралі дэпутатоў, дык ўсе чорнасоценцы давай біць ў далоні, сьпеваць, я думаў, што лявоніху скакаць ешчэ пусьцяцца... Стаялі мы братка, моцна.

У канцы адзін з мужыкоў сказаў рэч надта жалосную. «Скрыўдзілі, кажэ, мужыкоў, ня выбралі іх дэпутата. Хто будзе гаварыць ў Думе аб цяжкай долі нашай»...

Мужыкі ўсе плакалі.

Стары Хлёрка выціснуўся на першае мейсца, абвёў ўсіх мужыкоў вачамі і сказаў:

— Ну, што, чыя праўда?..

# СПІС